*Школа імя Лукашэнкі (стар. 4)*
*Колькі каштуе «правоз цела»? (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 31 студзеня 1997 г. № 10 Кошт свабодны

## Місія ЕС пакідае Беларусь

**Спецыяльная місія Еўрасаюза, якая на працягу пяці дзён працавала ў Мінску, сёння завяршае свой візіт.**

Дэлегацыя знаходзілася ў Беларусі з мэтаю яшчэ раз грунтоўна і ўсебакова прааналізаваць, наколькі дэмакратычным быў апошні рэферэндум, ці можна лічыць легітымнымі ягоныя вынікі і пасляпрэферэндумныя змены ў дзяржаве. Акрамя сустрэчаў з афіцыйнымі ўладамі, еўрапейскія эксперты сустракаліся з кіраўніцтвам і дэпутатамі Вярхоўнага Савета: Сямёнам Шарэцкім, Васілём Новікавым, Генадзем Карпенкам, Пятром Краўчанкам, Віктарам Ганчаром, Мечыславам Грыбам, Станіславам Шушкевічам. Былі таксама сустрэчы з кіраўніцтвам БНФ (Л.Баршчэўскі, Ю.Хадыка), Беларускага хельсінкскага камітэта (Т.Працька), Свабодных прафсаюзаў (Г.Быкаў), галоўнымі рэдактарамі незалежных газетаў «БДГ», «Белорусский рынок», СВАБОДА, «Свободные новости-плюс» і інш.

Як падкрэсліў кіраўнік дэлегацыі Ары Коста, *«мы прыехалі сабраць факты, а рашэнне будзе прымаць Савет міністраў Еўрасаюза»*, — гэта адбудзецца прыкладна ў канцы лютага.

Сёння члены місіі правядуць у Мінску прэс-канферэнцыю.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Агалец паедзе ў Ізраіль

**Беларуская дэлегацыя на чале з міністрам унутраных справаў Валянцінам Агальцом наведае Ізраіль 2—6 лютага па запрашэнні міністра ўнутранай бяспекі гэтай краіны.**

Як паведаміла прэс-служба ізраільскай амбасады, падчас візіту плануецца падпісаць двухбаковае пагадненне аб супрацоўніцтве ў барацьбе са злачыннасцю. Члены дэлегацыі таксама азнаёмяцца з работай праваахоўных органаў Ізраіля.

**Б.П.**

## Што рабіць з дэпутатамі?

**Прэзідэнцкая палата прадстаўнікоў правяла ў сераду «парламенцкія» слуханні аб прававым статусе дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання.**

З гэтай нагоды старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве і рэгламенце Анатоль Красуцкі правёў прэс-канферэнцыю. Па ягоных словах *«гэтае пытанне носіць палітычны і прававы характар. Статус дэпутатаў недастаткова ясна рэгламентаваны канстытуцыяй»*.

На слуханнях разбіраліся, каго датычаць гэтыя паўнамоцтвы (дэпутатаў, прызначаных Лукашэнкам у «палату», альбо тых, хто не прызнае легітымнымі палату і рэферэндум) і які тэрмін гэтых паўнамоцтваў (на 4 гады работы «палаты» альбо да новых выбараў).

У рэшце рэшт «палата» вырашыла звярнуцца да прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай ініцыяваць пытанне аб тлумачэнні адпаведных артыкулаў канстытуцыі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



*З-за ўраганнага ветру ў аўторак і сераду больш за 100 вёсак засталіся без электрычнасці. Народ запасаецца газніцамі.*

# Ці будзе ў камеры кворум?

**Чарговае паседжанне Вярхоўнага Савета, на якім разглядаліся 4 пытанні, працягвалася амаль 6 гадзінаў.**

З дакладам аб рабоце Прэзідыума ВС і задачах на будучыню выступіў старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі. Характарызуючы эканамічную сітуацыю, старшыня ВС адзначыў нездольнасць цяперашняга рэжыму вывесці краіну з крызісу; звярнуў увагу на імклівае павышэнне рознічных цэнаў (падкрэсліўшы пры гэтым, што не памятае, калі такое было, каб кошт кілаграма сыру або праязнога білета быў роўны мінімальнай зарплаце); заўважыў, што за час праўлення Лукашэнкі двойчы змянялася нават сама назва ўрада, да гэтай пары ўрад не мае прэм'ера і невядома, калі той з'явіцца.

Што ж да сітуацыі палітычнай, то С.Шарэцкі спыніўся на лукашэнкаўскай ідэі «славянскай еднасці», заявіўшы, што гэта *«не што іншае, як імкненне дыктатарскага рэжыму пашырыць сферу свайго ўплыву»*. У Беларусі, падкрэсліў Шарэцкі, жывуць не толькі славяне, а Расія наогул з'яўляецца не славянскай, а шматнацыянальнай дзяржавай, і таму лукашэнкавы падыходы небяспечныя перш за ўсё для самой Расіі. *«Не разумею, як многія расійскія палітыкі паквапіліся на гэтую прынаду»*, — сказаў С.Шарэцкі. Спікер абвергнуў абвінавачванні ў тым, што Беларусь трапіла ў міжнародную ізаляцыю з-за дзеянняў апазіцыі. *«Прычына міжнароднай ізаляцыі — дзейнасць прэзідэнта і ягонага атачэння, якія ўчынілі антыканстытуцыйны дзяржаўны пераварот»*, — падкрэсліў спікер. Але мала таго, што кіраўніцтва Беларусі прадэманстравала ўсяму свету сваю дыктатарскую сутнасць — яно здолела дамагчыся таго, што і ў Еўропе, і ў Расіі *«стала аб'ектам гумару і кпінаў»*.

Па другім пытанні — «Аб стане эканомікі і бюджэце Рэспублікі Беларусь» — выступіла дэпутат Л.Гразнова. Стан эканомікі яна ацаніла як крытычны, а бюджэтную палітыку — як незадавальняючую. Асаблівую ўвагу яна звярнула на пазабюджэтныя фонды, *«інфармацыю аб прыбытках і выдатках якіх атрымаць немагчыма»*. Л.Гразнова прапанавала запатрабаваць ад выканаўчай улады зліквідаваць гэтыя фонды, а таксама зменшыць падаткавы цяжар на прадпрыемствы і насельніцтва, забараніць Лукашэнку распараджацца бюджэтам, абмежаваць фінансаванне органаў дзяржбяспекі і службы бяспекі прэзідэнта на карысць сацыяльнай сферы, спыніць грашовую эмісію (адпаведна спыніцца і абясцэньванне рубля разам з узрастаннем цэнаў) і ўвогуле адмовіцца ад адміністратыўнага кіравання эканомікай.

Дэпутаты абмяркоўвалі даклад даволі доўга і грунтоўна. Праўда, тут дыскусіі ўжо не было — дэпутаты хутчэй проста дэталізавалі пэўныя аспекты. В.Шлындзікаў прывёў канкрэтныя лічбы павелічэння колькасці беспрацоўных, памяншэння заробкаў і пенсіяў, павышэння цэнаў. Не будзем стамляць гэтымі лічбамі чытачоў (і так ясна, што жывем паршыва) дадзім толькі адну: за мінулы год насельніцтвам краіны было куплена 1,8 млрд. долараў — і гэта толькі па афіцыйных каналах. Улічым, што летась яшчэ была нейкая фінансавая стабілізацыя, і ўявім, што будзе сёлета... В.Белякоў распавёў пра катастрафічны стан беларускай медыцыны і выказаў неразуменне, чаму лекі выключаныя з пераліку тавараў, якія падпадаюць пад валютныя льготы. С.Багданкевіч падкрэсліў, што бюджэтны дэфіцыт штучна паніжаны (у ім не ўлічваюцца бязвыплатныя крэдыты стратным суб'ектам гаспадаркі) — рэальна ён складае 7% валавага нацыянальнага прадукта, і адзначыў неабходнасць выпрацоўкі эфектыўных эканамічных праграмаў, каб *«паказаць народу альтэрнатыву»*. У выніку Вярхоўны Савет вырашыў прыняць за аснову вывады Л.Гразновай, падрабязна прааналізаваць усе выступленні па гэтым пытанні, раздрукаваць іх і распаўсюдзіць як па электроннай пошце, так і ў форме зборніка.

Старшыня камісіі ВС па міжнародных зносінах П.Краўчанка праінфармаваў пра паездку на паседжанне Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Ён заўважыў, што рашэнне Пастаяннага камітэта, паводле якога легітымным заканадаўчым органам Беларусі прызнаны ВС, а не лукашэнкаўская «палата», сталася вынікам глыбокага вывучэння нашай сітуацыі еўрапейскімі парламентарыямі. Яны задавалі велізарную колькасць пытанняў, высвятлялі мноства дэталяў і нюансаў беларускай Канстытуцыі, Закона аб рэферэндуме, заключэння Канстытуцыйнага суда і г.д. Дэлегацыя, якую ўзначальваў П.Краўчанка, зрабіла вялікую працу — дастаткова сказаць, што ўсе 54 дэлегацыі АБСЕ атрымалі пералік парушэнняў Канстытуцыі і заканадаўства пры правядзенні рэферэндуму. Па словах П.Краўчанкі, у Беларусі ёсць шанц аднавіць статус спецыяльна запрошанай ў Савеце Еўропы — і, ясна, што ў гэтым выпадку нашую краіну там будзе прадстаўляць Вярхоўны Савет, а не «палата».

*(Працяг на стар. 2)*

# Бітва за ўраджай працягваецца

**Камітэт па хлебапрадуктах прагназуе, што да новага ўраджаю Беларусі не хопіць харчовай пшаніцы, фуражу і кукурузы.**

Давядзецца закупіць каля 300 тыс. тон пшаніцы і 150 тыс. тон кукурузы. Акрамя таго, спатрэбіцца насенне зернебабовых. Як запэўнілі ў камітэце, *«краіна будзе з хлебам»*, аднак цэны на яго *«будуць няўстойлівыя»*. Гэта звязана з коштам сыравіны — *«закупачная цана на збожжа вырасла»*.

У першыя дні лютага мінсельгасхарч аб'явіць плануемы дзяржаўны заказ на 1 мільён 700 тысяч тон зерня (з іх 100 тысяч тон запланавана на вытворчасць спірту, 85 тыс. тон на піваварную прамысловасць і каля 50 тыс. тон на сартавое насенне). Чыноўнікі спадзяюцца, што гэты дзяржзаказ, які не перавышае мінулагодні, удасца выціснуць з калгасаў і саўгасаў. Аднак пакуль што выканала яго толькі Магілёўская вобласць.

Традыцыйна збожжа куплялі ва Украіны і Казахстана, але сёлета асноўным пастаўшчыком будзе Расія. Хлебная справа з Казахстанам не вырашаная да гэтага часу. Нават пасля судовага працэсу Казахстан не вярнуў зерне прыкладна на 3 млрд. расійскіх рублёў яшчэ з 1993 год. Да гэтага часу з Алма-Аты ў Мінск не паступіла ні зерня, ні грошай.

У сувязі з неўраджаем не мае пшаніцы Украіна. Акрамя таго, Украіна патрабуе перадаплаты, што не падыходзіць для беларускага боку.

Камітэт па хлебапрадуктах не выключае магчымасці закупкі зерня на Захадзе, калі там яно будзе таннейшым. Але тут узнікаюць праблемы, звязаныя ў першую чаргу з мытнымі службамі і падаткамі.

Як лічаць у камітэце па хлебапрадуктах, праблемаў з закупкамі зерня шмат і ў першую чаргу гэтыя праблемы — фінансавыя. Ніхто не хоча прадаваць яго за беларускія рублі. Валюту патрабуюць нават расійскія фірмы, а валюты, як вядома, няма.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Зноў пікет – і зноў затрыманні

**Учора прадстаўнікі БНФ наладзілі ў Мінску чарговы пікет каля пасольства Расіі.**

Удзельнікі акцыі патрабавалі ад крамлёўскага кіраўніцтва спыніць усякія інтэграцыйныя гульні з рэжымам Лукашэнкі. Побач з пікетчыкамі было заўважана некалькі аператыўнікаў у цывільным і жанчына-спецаператар, якая здымала франтоўскіх актывістаў на відэакамеру. Міліцыянтамі былі затрыманы сакратар управы БНФ Анатоль Крыварот і былы дэпутат Вярхоўнага Савета Барыс Гюнтэр, на якога склалі пратакол *«за правядзенне несанкцыянаванага пікету»*.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## У падтрымку Адамовіча

**У сераду, 29 студзеня, у Віцебску мясцовая Рада БНФ «Выбар» правяла пікет.**

Актывісты Народнага фронту падчас акцыі збіралі ахвяраванні на лячэнне свайго сябра, распаўсюджвальніка незалежнай прэсы Юрыя Мароза, жорстка збітага за выступленні ў абарону паэта Славаміра Адамовіча. На працягу апошніх двух месяцаў, у Віцебскім абласным судзе адбываецца працэс суда над С.Адамовічам, «Выбар» пастаянна выказвае сваю падтрымку паэту.

*БелаПАН*

## Кангрэс не рэгіструюць

**Міністэрства юстыцыі ў чарговы раз адмовіла ў рэгістрацыі Беларускаму Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў.**

Чыноўнікі міністэрства тлумачаць адмову тым, што *«адным з ініцыятараў стварэння БКДП з'яўляецца Свабодны прафсаюз Беларусі, дзейнасць якога прыпыненая ўказам прэзідэнта ад 25 снежня 1995 г.»* (Як вядома, гэты ўказ быў прызнаны Канстытуцыйным судом незаконным.) Спасылаючыся на ўказ, мінюст ужо чацвёрты месяц адмаўляецца зарэгістраваць Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў. Прафсаюзнікі лічаць адмову незаконнай і збіраюцца 11 лютага правесці пікет пратэсту каля міністэрства юстыцыі (вул.Калектарная, 10).

**Валодзя ЯНЧУК**

## Віннікава просіць вызваліць яе з-пад арышту

**Былая старшыня Нацбанка Тамара Віннікава сумесна з адвакатам падрыхтавала скаргу ў Цэнтральны раённы суд Мінска аб змене меры стрымання.**

У скарзе, якая паступіла ў адміністрацыю следчага ізалятара КДБ, дзе з 14 студзеня ўтрымліваецца былая старшыня Нацбанка, прыводзіцца шэраг довадаў на карысць замены меры стрымання на больш мяккую, не звязаную з утрыманнем пад вартай. Сярод асноўных довадаў — неадпаведнасць жорсткай меры стрымання абвінавачванню, якое прад'яўлена Віннікавай. Па-другое, асоба былога галоўнага банкіра не ўяўляе для грамадства небяспекі і няма падставаў меркаваць, што, знаходзячыся на волі, яна схаваецца ад следства і суда. Таксама выклікае занепакоенасць стан здароўя Віннікавай.

Адміністрацыя СІЗО на працягу двух сутак абавязана перадаць пісьмо ў Цэнтральны раённы суд Мінска; максімум праз шэсць дзён суд з удзелам зацікаўленых бакоў павінен разгледзець скаргу.

*БелаПАН*

# Ці будзе ў камеры кворум?

*(Пачатак на стар. 1)*

Вельмі важнае пытанне ўзняў дэпутат В.Ганчар. Ён прапанаваў свае паслугі ў распрацоўцы заканапраекту, згодна з якім Вярхоўны Савет у цяперашнім складзе атрымае статус легітымнага заканадаўчага органа Беларусі (не зачыняючы пры гэтым дзверы перад «блуднымі дзецьмі», калі тыя захочуць вярнуцца ў ВС з «палаты»). Для такога рашэння, на думку В.Ганчара, ёсць усе прававыя падставы. Калі гэта не будзе зроблена, В.Ганчар упэўнены: *«Работа ВС не будзе мець практычнага сэнсу»*. Ведаючы В.Ганчара як аднаго з найбольш кампетэнтных юрыстаў нашай краіны, наўрад ці ёсць сэнс сумнявацца ў абгрунтаванасці ягонай пазіцыі. Тым больш незразумелыя пярэчанні некаторых дэпутатаў (якія складаюць, на шчасце, яўную меншасць), якія ва ўмовах дыктатуры спрабуюць трымацца ў межах фільтраванага, стэрыльнага стаўлення да працэдурных нормаў. Складаецца ўражанне, што калі б, не дай Бог, такія дэпутаты трапілі ў турэмную камеру, дык і там патрабавалі б наяўнасці кворуму. Цвярозыя галасы пераконвалі, што Канстытуцыя ў нашай краіне рэальна не дзейнічае, што сітуацыя адсутнасці заканадаўчага органу ніякімі нормамі не прадугледжаная і гэта непараўнальна большае парушэнне Канстытуцыі, чым пэўнае мане кіраванне працэдурнымі момантамі. *«Уся Еўропа прызнае нас легітымным парламентам — а мы самі адмаўляемся ад гэтага статусу. Хіба гэта не абсурд?!»* — сказаў калегам дэпутат П.Знавец. *«Мы маем справу з вераломным драпежнікам, які цынічна парушае законы — і сёння ясна, што трэба не абмяркоўваць працэдурныя пытанні, а дзейнічаць»*, — заявіў намеснік старшыні ВС Г.Карпенка. Каб не парушаць кансэнсусу, канчатковае вырашэнне гэтага пытання перанеслі на наступнае пасяджэнне, да якога В.Ганчар прадставіць тэкст прапанаванага ім заканапраекта.

Дарэчы, В.Ганчар абраны Вярхоўным Саветам старшынёю спецыяльнай камісіі па прававой ацэнцы парушэнняў Канстытуцыі і законаў прэзідэнтам Лукашэнкам.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

*Старшыня спецыяльнай камісіі ВС В.Ганчар прадметна тлумачыць члену гэтай камісіі дэпутату П.Данэйку, як трэба абыходзіцца з дыктатарамі.*



# Вярхоўны суд, дапамажы вярнуць кватэры!

**Рабочыя Мінскага матавелазавода ў мінулую сераду пікетавалі Вярхоўны суд.**

Яны патрабуюць перагледзець судовае рашэнне, у выніку якога 8 чалавек былі пазбаўленыя пабудаваных імі кватэр. Рабочыя завода будавалі сабе кватэры так званым гаспадарчым спосабам. Гэта азначала, што пасля працоўнай 8-гадзіннай змены на заводзе яны мусілі працаваць яшчэ на сваёй новабудоўлі. З самага пачатку будаўніцтва ўсе кватэры, натуральна, былі ўжо размеркаваныя паміж іх уладальнікамі. Будаўніцтва ішло 7 гадоў. І вось, калі да засялення заставалася некалькі месяцаў, на завод прыйшло сумнае паведамленне — 8 кватэр з будаванага дома завод павінен аддаць работнікам былога падрадчыка. Рэч у тым, што калі пачыналася будаўніцтва двух дамоў гаспадарчым спосабам, тады падрадчыкам аднаго з іх было ўпраўленне пусканаладачных работ (УПНР). Пазней яно адмовілася фінансаваць будоўлю. І калі паўстала пытанне працягваць будаўніцтва, матавелазавод выкупіў долю УПНР, і, натуральна, з гэтага часу лічыў дом сваім.

Аднак былыя партнёры звярнуліся ў суд і адсудзілі восем кватэр. Між тым, рабочыя матавелазавода лічаць, што раённы і гарадскі суды фармальна падышлі да чужога жыллёвага пытання. Вярхоўны суд пакінуў рашэнне гарадскога без змяненняў. Хадакі ад рабочых звярнуліся да прэзідэнта і ў Генеральную пракуратуру. Пракуратура папрасіла дадатковыя матэрыялы. Асноўнае патрабаванне на сённяшні дзень — каб Вярхоўны суд перагледзеў сваё рашэнне.

Адну з задач пікет выканаў — прыцягнуў увагу суддзяў. Адна з іх прапанавала старшыні прафкама матавелазавода Мікалаю Байко абмяняцца думкамі па праблеме, аднак той рабіць гэта адзін на адзін адмовіўся. Ужо ў прысутнасці пікетоўшчыкаў суддзя параіла не губляць дарэмна час, таму што справы ў судзе на гэты момант няма, ёю займаецца пракуратура. Паводле рашэння гарвыканкама, пікетаванне дазволена да 2 лютага.

Для роздуму: у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў на Мінскім матавелазаводзе значыцца больш за тысячу чалавек.

**Алесь ВЕЦЕР**



# Супермашына ад «Віцязя»

**Унікальную спецмашыну нядаўна займела аварыйна-выратавальная служба г.Віцебска.**

Віцебскім выратавальнікам дапамаглі ў гэтым спецыялісты мясцовага вытворчага аб'яднання «Віцязь», якое выпускае тэлевізары. Расійскі мікрагрузавік маркі «Газель» яны перарабілі і нашпігавалі самым сучасным абсталяваннем. Там ёсць апараты, з дапамогай якіх можна тушыць пажары і рэзаць метал і бетон. Пераабсталяванне грузавіка каштавала ў 30 тыс. долараў, але гэта ўсёроўна танней, чым купіць падобную машыну замежнай вытворчасці. Што ж, грошай у нас няма, але затое ёсць выдатныя спецыялісты.

**Барыс ХОЛАД**

# Рэвізор недаплаціў?

**Два навучэнцы Віцебскага ПТВ-57 маюць сур'ёзныя прэтэнзіі да рэвізора КРУ міністэрства фінансаў па Віцебскай вобласці Івана Іванова.**

Рэч у тым, што яны восем дзён рабілі на кватэры Іванова рамонт, а рэвізор ім заплаціў за ўсю працу па 300 тыс. рублёў. Хлопцы лічаць, што гэтага мала, і сцвярджаюць, што сёння за такія грошы любы будаўнік не стане нават даставаць з чамадана інструменты.

Дарэчы, на кватэры І.Іванова хлопцы працавалі ў той час, калі афіцыйна праходзілі вытворчую практыку ў РБУ Віцебскага абласнога ўпраўлення бытавога абслугоўвання.

**Барыс ХОЛАД**

# Расійскіх лётчыкаў пахавалі ў Беларусі

**Два пілоты расійскага вайсковага самалёта МИГ-31, які разбіўся ў Архангельскай вобласці, былі пахаваныя ў Беларусі ў мінулыя выходныя.**

Намеснік камандзіра расійскага авіяпалка падпалкоўнік А.Сімаглаў суправаджаў дзве труны на самалёце АН-26, які спачатку прызямліўся на аэрадроме ў Росі Ваўкавыскага раёна. Труна з парэшткамі 33-гадовага капітана Юрыя Шчэрбанёва была дастаўлена ў Гродна, дзе адбылося пахаванне паводле вайсковага рытуалу — з ганаровай вартай і салютам. На магіле была ўмацавана хваставая плоскасць ад самалёта. На пахаванне прыязджалі з авіябазы з Баранавічах пяцёра былых саслужыўцаў капітана Шчэрбанёва. Ягоная жонка паходзіць з Гродна, менавіта таму ён і быў тут пахаваны. Яны збіраліся ў будучыні купіць у Гродне кватэру. У Юрыя не было бацькі, а яго маці прыехала на пахаванне з далёкага Таджыкістана.

32-гадовага маёра Васіля Стрыжэнніка пахавалі ў Горках Магілёўскай вобласці. Яны з жонкай абодва — горацкія, ставілі там сабе дом, але не паспелі дабудаваць.

Абодва афіцэры былі лётчыкамі першага класу, маёр Стрыжэннікаў — камандзір авіятрада, а капітан Шчэрбанёў — штурман. На станцыі Кулой Архангельскай вобласці, непадалёк якой яны загінулі, у памяць аб іх будзе пастаўлены мемарыяльны знак.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# 13-ты заробак не змяніў паказчыкаў

**Міністэрства статыстыкі і аналізу працягвае падводзіць вынікі 1996 года. Цяпер у афіцыйную статыстыку залічылі снежань.**

Згодна з апошнімі дадзенымі заробак у народнай гаспадарцы павялічыўся за 1996 г. на 56%. У так званым «рэальным» вылічэнні (з улікам індэксу інфляцыі) рост склаў 12%. Калі ж пералічыць заробак па рынкавым курсе долара, то падзенне склала як мінімум 28%. І гэта нягледзячы на тое, што снежаньскі заробак заўжды большы, чым у іншыя месяцы.

Паглядзеўшы на адносныя лічбы снежань 1996 г. да снежня 1995 г., прыхільнікі Лукашэнкі ідзі «забраць у багатых» могуць паціраць рукі: за мінулы год больш за ўсё знізіўся заробак банкіраў — на 39%. Работнікі адукацыі, аховы здароўя і культуры нібыта пацярпелі менш за ўсіх: іхнія зарплаты паменшалі «толькі» на 20—21,5%. Але ж у іх і забіраць няма чаго: медыкі рэальна атрымалі за апошні месяц 58,3 долара, настаўнікі — 55, а работнікі культуры ўсяго 47. Менш за іх павінны былі атрымаць (менавіта павінны, бо калі заплоцяць — невядома) толькі работнікі сельскай гаспадаркі — 41 долар. А вось «слугі народа», якія працуюць у дзяржапараце, наракаць асабліва не павінны: іхні сярэдні заробак за снежань 1996 г. склаў 93 долары.

Калі ж разглядаць становішча па рэгіёнах, то найбольш плоцяць у Мінску — сярэдні заробак склаў 2 млн. 63 тыс. рублёў. Далей ідзе Гомельская вобласць — 1 млн. 602 тыс. рублёў. На апошніх месцах заходнія вобласці — Гродзенская (1 млн. 470 тыс.) і Брэсцкая (1 млн. 419 тыс.).

**Алесь САДОЎСКІ**

*КУЛЬТУРА*

# Фільм пра мастака, які не любіць маляваць Парыж

Мінская кінастудыя Таццяны Логінавай «Таццяна» на мінулым тыдні адзначыла 6 гадоў свайго існавання. З гэтай нагоды ў саюзе кінематаграфістаў адбылася прэзентацыя апошняй работы студыі — дакументальнага фільма «Мастак Барыс Забораў». Рэжысёр карціны Валерый Рубінчык сказаў, што задума фільма *«мела абсалютна патрыятычны характар»*.

Мастак Барыс Забораў у 1981 годзе эміграваў з Беларусі ў Францыю. *«Я жыў у краіне ўзорнага таталітарнага рэжыму, для якога яго ганебная ідэалогія была ўмовай існавання. Яна пранізвала ўсё жыццё, і мастацтва — у першую чаргу»*, — піша мастак.

Забораў пачынаў як кніжны графік. Вядомыя яго ілюстрацыі да твораў Пушкіна і Дастаеўскага. Каля 30-ці яго работ засталіся ў Беларускім мастацкім музеі (ілюстрацыі да паэмы Я.Коласа «Сымон-музыка», да адной з кніг Рыгора Барадуліна). Барыс Забораў марыў стаць жывапісцам: *«жывапіс даваў задавальненне, але не прыносіў грошай. Кніжная графіка карміла, але з часам станавілася невыноснай. Нарастаў адчай, злосць і, нарэшце, трывога беззваротна згубіць самога сябе»*.

15 гадоў назад Барыс Забораў пакінуў Мінск і стаў знакамітым мастаком на Захадзе. Ягоныя работы атрымалі прызы Лейпцыгскай кніжнай ярмаркі за «Санеты» Шэкспіра і «Казкі» Оскара Уайльда, ягоныя работы купілі вядомыя прыватныя калекцыянеры і галерэі ў ЗША, Францыі, Бельгіі, Японіі і Расіі. Вялікая выстава 60-гадовага мастака адбылася ў Маскве і Санкт-Пецярбургу.

Як паведамілі ў Беларускім мастацкім музеі, ёсць жаданне зрабіць выставу Заборава ў Мінску, але пакуль не знойдзеныя спонсары. Перамовы на гэты конт вяліся яшчэ ў той час, калі міністрам культуры быў П.Вайтовіч. Дырэктар музея Юрый Карачун шкадуе, што *«цяпер гэтая справа заціхла»*. Дарэчы, Барыс Забораў не меў ніводнай персанальнай выставы ў Мінску, бо згодна з тагачаснымі правіламі, персанальную выставу мастак мог правесці толькі ў 50 гадоў альбо атрымаўшы званне.

У 1994 годзе Барыс Забораў наведаў Беларусь і прымаў удзел у першым міжнародным пленэры Марка Шагала ў Віцебску. Згодна з умовай пленэру, мастакі падарылі свае работы Віцебску. Работы Барыса Заборава маюць таксама сябры мастака ў Беларусі. Напрыклад, у народнай артысткі Беларусі, прыма-балерыны Людмілы Бржазоўскай ёсць яе партрэты, якія мастак напісаў незадоўга да ад'езду ў Парыж. Той, хто яшчэ не знаёмы з творчасцю Заборава, пакуль што мае магчымасць атрымаць пэўнае ўражанне дзякуючы фільму Валерыя Рубінчыка.

Кінарэжысёр распавядае, што Забораў *«ніколі нідзе не піша на сваіх палотнах парыжскіх завулкаў. Увесь час ён сядзіць у майстэрні і перабірае старыя фотаздымкі, звязаныя з Мінскам і Беларуссю. Ён чалавек вельмі блізкі да прыроды, яму дарагія гэтыя азёры, рэкі, палі... Ягоны жывапіс нагадвае вялікія старыя фотаздымкі. Нас, стваральнікаў фільма, аб'ядноала любоў да роднага папялішча, да бацькоўскіх магіл.Гэта для мяне мае асаблівы сэнс. Гэта сніцца па начах»*.

В.Рубінчык цяпер жыве ў Маскве, і часам яму тэлефануюць здалёку, пытаюцца пра падзеі ў Мінску, пра *«наш Брадвей ад мінскага паштамта да кафэ «Вясна»*. Сапраўды, кажа В.Рубінчык,чаму ў доме Клябанава на праспекце Скарыны ў Мінску адчынілі рэстаран «Іспанскі куток»? Тут жа быў цудоўны рэстаран «Нёман».*«Гэта ўсё знаходзіцца ў нашых сэрцах, пакуль мы жывыя»*.

Карані мастака Барыса Заборава ў Беларусі. Яму было 6 гадоў, калі пачалася вайна. *«У першы ж год пасля заканчэння вайны наша сям'я вярнулася ў Мінск*, — успамінае мастак. — *Горада практычна не існавала. Уся прастора, якую ахоплівала вока, уяўляла сабою ірэальную карціну: руіны, папялішчы і адзінокія згорбленыя постаці, якія блукалі па іх. У прыцемках горад станавіўся яшчэ больш трывожным і загадкавым. Мроіўся дагістарычны пейзаж, дзе сілуэты развалінаў на фоне вечаровага неба набывалі малюнак фантастычных жывёлаў»*. Забораў скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава.

Мастак Барыс Забораў мае двухпавярховую майстэрню ў адным з цэнтральных раёнаў Парыжа. Дзякуючы фільму Валерыя Рубінчыка гледачы маюць магчымасць пабываць у гэтай майстэрні, з вакна якой круглы год бачны любімы пейзаж мастака — *«квадрат зялёнай травы»*. Знаёмыя мастака асцярагаліся, што яму будзе цяжка на Захадзе, дзе *«нікога не чакаюць»*. Але талент Барыса Заборава быў вельмі хутка ацэнены ў Парыжы і мастак трапіў у прэстыжныя галерэі.

57-хвілінны фільм Валерыя Рубінчыка «Мастак Барыс Забораў» не біяграфічны. Ягоная мэта — акунуцца ў таямніцу творчасці мастака, раскрыць сутнасць яго светапогляду. *«Я люблю белае палатно*, — распавядае мастак з экрана, — *адчуваю вялікую прыгажосць у белым, некранутым стане палатна. Для мяне гэта не проста паверхня, а адкрытае акно ў прастору, дзе можна мэдытаваць, даць волю фантазіі»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Беларускі лукаюгенд, або Як набіраць у Беларускі саюз моладзі

БСМ існуе ў рамках «маладзёжнай палітыкі» прэзідэнта, або, кажучы па-простаму, дзеля «падтрымкі прэзідэнта моладдзю». І зусім няважна, што большасць правінцыйнай моладзі не ведае нават, што такое палітыка. Галоўнае — стварыць атрады пад бюракратычнымі назвамі кшталту «клубы занятости молодежи», дзе з ідэалагічнага канвеера сыходзілі б новыя шэйманы, малафеевы ці проста байцы АМОНу. Па-свойму можна зразумець тых маладых людзей, якія па ўласных палітычных перакананнях ідуць у БСМ. Але ж кіраўнікі філіяў БСМ у правінцыі выкарыстоўваюць зусім брудныя сродкі. Напрыклад, дамаўляюцца з мясцовым кіраўніцтвам, каб тых, хто мае пасведчанне члена БСМ, пускалі на дыскатэкі за палову цаны, ці наогул бясплатна. Такое я бачыў у Пружанах Брэсцкай вобласці. А за адно гэта дэпалітызаваная правінцыйная моладзь будзе ўступаць у БСМ. Чаму не? — лішнія пару тысяч у кішэні не зашкодзяць.

**А.СТЭФАНОВІЧ,** *г.Мінск*

## Чеки «Имущество» уже стали туалетной бумагой

Уважаемая газета СВАБОДА. Прочитав статью А.Садовского «Что делать с бесплатным лотерейным билетом», опубликованную в вашей газете 17 января, я решил последовать советам автора, опасаясь, что скоро эти чеки «Имущество» могут стать туалетной бумагой.

Я позвонил по объявлению о покупке чеков «Имущество». Там мне объяснили, что действительно покупают чеки, но только у жителей города Минска, а чеки Минского района им не нужны (в этом районе я живу).

Тогда я решил пойти в последний и решительный бой, так как все остальные предложенные варианты отпадали. Я пошел в сбербанк, где мне выдавали чеки, — с надеждой, что хоть на акции какие-нибудь поменяю или поводам. Но не тут-то было. Оказывается, чеки в сбербанке они не меняют на акции и не покупают. Представьте себе мою бабульку, которая 40 лет проработала на ферме, стала практически инвалидом. И вот женщина, которой 75 лет, с повышенным давлением три раза ездила за 15 км, чтобы получить эти чеки. Но оказывается, что продать их или вложить куда-либо очень непросто. Нас в очередной раз обманули!

**Сергей БЕРЕСТОВ,** *студент, Минский р-н*

## Чиновники выгоняют детей на окраину

Уважаемая редакция! Пишет вам из Баранович пенсионерка, ветеран труда, имеющая троих внуков, душа за которых и болит. Не могу остаться равнодушной, видя лицемерие и несправедливость, да еще направленные в адрес детей.

Суть в том, что двое из моих внуков (Таня и Дима) ходят в городскую музыкальную и художественную школу, расположенную в Доме искусств на площади Ленина. Я часто бываю там и ожидаю их в фойе, пока не окончатся занятия.

Всегда очень внимательно слушаю нашего президента Александра Лукашенко, за которого голосовала и на выборах, и на последнем референдуме. Но с каждым днем я все больше разочаровываюсь в нем. Или же это на местах власти просто искажают все им обещанное?

У нас в Барановичах сейчас замахнулись уже на детей, хотят отобрать здание, в котором они занимаются. Музыкальную и художественную школы собираются вытеснить в трущобные окраины, разобщить их, а президентские структуры разместятся в тех светлых классах, где занимаются детки.

Люди, мы сошли с ума. Опять эти «слуги народа», которые кричат «все лучшее — детям», заботятся только о своем личном благополучии. Объясните мне, старому человеку, за что отдали жизнь мои ровесники. Объясните родителям, которые хотят в наше трудное время воспитать своих детей людьми, что происходит и что делать. Когда же мы поймем, что дети — это наше будущее? Поймем, а не будем с пафосом кричать об этом.

Бывайте здоровы.

**ЕФИМОВИЧ,** *г.Барановичи*

## Я молюсь по-другому

Сесть за школьную парту в должные 7 лет мне помешала война. В школу я пошла в 1944 г., когда было освобождено от военных действий наше Полесье и мне было уже 10 лет. Когда я была в 5-м классе, меня мама взяла с собою в церковь на Пасхальную всенощную. Для подростка, видевшего вокруг только проблемы маленькой деревни с ее военными горестями, посещение церкви в местечке — событие не простое. Через неделю все учащиеся нашей 7-летней советской школы были собраны на самое большое и обязательное собрание, перед которым на всеобщее порицание выставили меня — как преступницу, перешагнувшую грань дозволенного. До сих пор ком к горлу подступает... С тем ощущением конца света не могли сравниться ни взрывы снарядов, мин, полыхание домов нашей деревни, сожженой гитлеровцами, ни вой волчьих стай на болоте... То потрясение породило в моей душе веру в Великую Справедливость.

Во второй раз я посетила церковь, когда умер отец моих детей, потом — когда не стало мамы. Церковных служб я не понимаю, тем более, что они ведутся на непонятном мне (да и не только мне) языке. Бываю в самых маленьких и неустроенных церквушках, куда можно прийти вне службы, постоять в святом месте и пообщаться мысленно с иконами и Богом, отдать дань через Святой Дух близким людям, без которых мне жить грустно. Это — мой Бог и мое с ним общение.

А какого же бога вырастил в своей душе наш президент? Никакой наглости и вранья Бог не приемлет, а Лукашенко ведет себя в самом большом соборе Минска, как самый большой церковный начальник, хотя сан-то у него мирской. Когда президент в храме, то почему простым прихожанам быть с ним в одно время не велено — их (простых) просто в храм не пускают?

Коль наш президент стал таким близким церковным иерархам, то почему митрополит не убедит своего лобызателя навести Божий порядок в его личной семье? Почему же своим большим убеждением и святостью митрополит Филарет не облагоразумит Лукашенко, что нельзя быть счастливым правителем в несчастливой стране, что врать — грешно, а врать целому народу уже не только тяжкий грех, но и тяжкое преступление?!

**В.ПЕТРОВИЧ,** *пенсионерка, г.Минск*

# «Электарат» вымірае...

Старажытныя кітайцы казалі: «Мы — тое, што мы ямо». Мелася на ўвазе, канечне, харчаванне (ясі свініну — падобны на свінню, бараніну — на барана і г.д.). Але тое ж можна сказаць і пра інфармацыйную ці духоўную «ежу». Чым корміцца сёння нашае насельніцтва? Вядома чым — поснай прэзідэнцкай хлуснёй ды байкамі пра «рынкава-праваслаўны сацыялізм». Таму і выгляд у нас адпаведны — ці то самы вялікі калгас, ці то малое прэзідэнцкае прадпрыемства — гэткі трамплін у большае, сумесна-расійскае...

Такая палітыка, можа, прывядзе да выжывання аднаго, «самага дастойнага», чалавека, але для большасці простых і не вельмі простых людзей вынік будзе адваротны.

Недаяданне і гаспадарчы развал, холад і энергетычны крызіс, неэфектыўнасць сацыяльных праграм і разбурэнне медыцынскай сістэмы ў першую чаргу б'юць па ветэранах і інвалідах, пенсіянерах, хворых, шматдзетных сем'ях. Гэта ўрэшце вядзе да паскоранага вымірання людзей сталага веку і маламаёмных грамадзян. Відаць, у гэтым дыялектыка жыцця: найперш церпяць ад свайго палітычнага куміра тыя, хто больш за ўсё яго падтрымлівае. Гэтыя людзі не могуць з'ехаць на эміграцыю ці хаця б у шоп-тур, узяць лішнюю «паўстаўку» ці знайсці якую «халтуру», а таму ціха канаюць у сваёй халоднай кватэры ці на бальнічным ложку без лекаў. Многія так і паміраюць — з наіўнай верай у самага «чэснага» чалавека, які так шчыра і шмат усяго абяцаў.

Сёння ў нас пачынаецца кампанія за добрыя паказчыкі. Даведзеныя «працэнты прыросту» для заводаў, транспарту, службы быту, гандлю і г.д. Думаю, што «на паперы» яны дадуць рост пры любым раскладзе, бо не забыты яшчэ вопыт савецкай «аптымістычнай статыстыкі». Але адзін прырост, які дае сённяшняя палітыка, будзе рэальным — нарастаючая з году ў год смертнасць і скарачэнне сярэдняй працягласці жыцця беларусаў. Нацыя вымірае — і найперш вымірае «электарат». Працэс гэты ідзе ўжо не адзін год, але ролю сацыяльна-эканамічных «дасягненняў» сённяшняга рэжыму перааценіць тут цяжка.

Чуў неяк цынічнае меркаванне, што гэта — натуральная гістарычная з'ява, простае пазбаўленне грамадства ад «баласту», ад каменя на шыі, які цягне ўсіх на дно. Можа, чыста па-філасофску з гэтым можна было б згадзіцца, але той «баласт» — нашыя бацькі, сваякі і суседзі, нашыя блізкія і родныя людзі, тыя, каму мы многім абавязаныя. І, у рэшце рэшт, іхняе змрочнае існаванне, як і нашае сённяшняе пакутлівае жыццё, — ланцужкі адной праблемы — праблемы выжывання беларускага народа і нараджэння беларускай нацыі. А нацыя ніколі не будзе здаровая фізічна, пакуль правяць баль саўковыя прыстасаванцы і традыцыя калгаснага хама. Нацыя тым больш не стане здаровай духоўна, пакуль галоўнай «ежай» будзе хлусня і нянавісць.

Так што толькі праўда, якой бы страшнай яна ні была, можа нас выратаваць. А яна часам не проста страшная, а жахлівая. З кожным годам беларусаў становіцца менш. Нашыя мужчыны ў сярэднім жывуць 58 гадоў. Колькасць алкаголікаў у краіне набліжаецца да 1 мільёна, а колькасць беспрацоўных, «бомжаў» і людзей за «рысай беднасці» дакладна невядомая нікому. Не такі ўжо «заможны, набожны і працавіты» наш народ, як гэта хочуць паказаць прэзідэнцкія прапагандысты.

Народ і дзяржава наша калі не смяротна, то цяжка хворыя. Вінаваты не толькі Чарнобыль ці іншая савецкая спадчына, але і сённяшнія ўлады, якія не лечаць, а заганяюць сацыяльныя хваробы ўглыб, падалей з вачэй «усенародналюбімага». Чым гэта скончыцца — здагадацца няцяжка, бо ёсць у народа і здаровыя сілы, і светлыя галовы, і рана ці позна праўда адкрыецца, а ідал паляціць у «вогнішча гісторыі», як і ўсе ягоныя злавесныя папярэднікі.

**В.АЎРАМЕНКА,** *г.Магілёў*

## Демократия или порядок?

В № 4 СВАБОДЫ прочитал в статье В.Карбалевича такую мысль: *«Народ готов пожертвовать ценностью «свободы» ради ценности «порядка»*. Автор как будто противопоставляет «свободу» и «порядок». Интересно, что примерно так же думает и большинство населения: или демократия (без Лукашенко), или порядок (с Лукашенко).

В самом деле, с чем ассоциируется слово «демократия» у обычного избирателя? С развалом экономики, ростом цен, безработицей, вседозволенностью, порнографией, преступностью, произволом чиновников, расхищением народного добра и т. д. и т. п. — и уж никак не со словом «порядок». Именно поэтому такой избиратель голосует не за демократию. Для него потребуется довольно много времени, чтобы убедиться в том, что Лукашенко тоже не принесет порядка.

Между тем порядок нужен всем: и крестьянам, и бизнесменам, и журналистам, и правым, и левым. Некоторым — для того, чтобы чувствовать себя людьми, — также нужна и демократия. Существует достаточно много примеров успешного совмещения демократии и порядка. Например, в Германии порядка куда больше, чем у нас. В то же время там намного больше и свободы. Так что свобода и порядок сами по себе не противоречат друг другу. Проблема в том, что и то, и другое нельзя *ввести* или *выбрать*, до этого нужно *дорасти*, в первую очередь — самим же демократам.

Какие бы примеры ни приводились, все же каждому обществу нужно пройти свой путь. Порядок в Германии действительно складывался веками, и немцам пришлось пережить Гитлера, чтобы понять, как не должно быть. У нас ситуация сегодня такая, что демократия для нашего общества не является какой-то самоочевидной ценностью. Ее преимущества нужно объяснять и доказывать. И противопоставлять нужно бы не свободу и порядок, а демократический порядок — диктаторскому порядку.

Для того чтобы утверждать, что демократия лучше диктатуры, нужно утвердить и доказать, насколько возможно, что демократия — это и есть порядок.

**Виктор ТУМАШ,** *г.Минск*



## Наш депутат поступил по совести и закону

Я активно участвовала в избирательной кампании во время выборов в Верховный Совет 13-го созыва. И не зря: кандидат, за которого я агитировала, получил депутатский мандат. После избрания он активно работал с избирателями, многим помог (не мне, другим, потому что я лично ни с чем не обращалась). Он — действительно достойный, настоящий депутат. Но Лукашенко своим решением «отменил» нашего депутата — и мы остались ни с чем, без своего защитника. Ведь ясно, что никому из нынешних сидельщиков в президентских палатах до народа дела нет — особенно в «чужих» округах.

Наш депутат не пошел подобострастно поднимать руку в палате нарушителей Конституции. И этим еще раз доказал свою честность и принципиальность.

Я сознательно не называю фамилию нашего депутата. Во-первых, не хочу его возвеличивать — просто человек поступил по совести и закону. А во-вторых — такой ведь не он один.

**Мария ПАЛАЦКАЯ,** *Гродненская обл.*

## Это будет для них хорошим уроком

Здравствуйте, дорогая редакция!

Два года я выписываю вашу газету и не перестаю восхищаться. Пожалуй, я бы не смог назвать еще одну газету, которая была бы равна вашей. Большое вам спасибо!

Прочитал статью о ситуации на Комаровском рынке. Ну что ж, после «Динамо» этого и следовало ожидать. Но я считаю, что так им и надо, это для них хороший урок. И для «динамовцев», и для «комаровцев».

Я немного знаю подобных людей и слегка их недолюбливаю. Они все «деловые» и вечно занятые, они все «делают бизнес». Когда надо было пойти на выборы и опустить бюллетень в урну, им было некогда. Как же — они «делали деньги». Не помню, кто сказал: «Если ты не хочешь заняться политикой, она займется тобой».

Надеюсь, теперь они поумнеют. И если 2,5 года назад надо было всего лишь прийти на избирательные участки, то теперь придется выйти на улицы. А кто там будет ожидать «не тот народ» — я думаю, известно.

**А.З.,** *г.Минск*

## РАДКІ З ЛІСТОЎ

Дарагія сябры!

Вялікі дзякуй вам за вашую газету, якую я чытаю ад першай да апошняй літары. Спадзяюся, што з Вашай дапамогай народ Беларусі зробіць Беларусь сапраўднай дэмакратычнай дзяржавай, незалежнай ад «старэйшых братоў» і вольнай — дзяржавай, якую будуць паважаць у свеце. Жадаю вам поспехаў.

**Ларыса БАЛІ,** *Швейцарыя*

У нас сейчас такие правила, как в курятнике: залезть повыше, обгадить нижнего, клюнуть ближнего.

**А.ГЕРАСІМОВА,** *Сенненский р-н*

Я ни у кого не требую денег, хоть иногда и сижу голодная. Я не ворую и не клянчу. Я не хочу чужого. Но как мне жить, если я просто человек, а не Лукашенко и не Ельцин?

**Людмила ИГНАТЬЕВНА,** *г.п.Богушевск*

